www.nv-online.info

№ 84 (3825)

25 кастрычніка 2013 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец: УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

***Якуб КОЛАС***

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

***Вам трэба прадоўжыць падпіску на «Народную Волю» на лістапад—снежань? Гэта яшчэ можна зрабіць сёння і заўтра.***

САМІТ

# У Мінск на наваселле? Ці для вырашэння лёсавызначальных праблем?

***Учора кіраўнікі краін СНД з'ехаліся ў сталіцу Беларусі на саміт, а некаторыя з іх — яшчэ і для ўдзелу ў пасяджэнні Вышэйшага Еўразійскага эканамічнага савета. Вядома ж, не абыдзецца і без двухбаковых сустрэч.***



**У кожнага з "тройкі" — свае інтарэсы.**

*Каб здзівіць гасцей, у апошнія тыдні ў Мінску, можна сказаць, дзень і ноч вяліся работы па завяршэнні будаўніцтва Палаца Незалежнасці, паколькі мерапрыемствы з удзелам кіраўнікоў краін Садружнасці Незалежных Дзяржаў і павінны стаць так званымі ўлазінамі ў новы будынак.*

У сераду, за дзень да пачатку прыбыцця гасцей, Аляксандр Лукашэнка разам з сынамі праінспектаваў гатоўнасць новага Палаца Незалежнасці да мерапрыемстваў, пасля чаго яны заклалі Алею ганаровых гасцей, пасадзіўшы блакітныя елкі. Рыдлёўкі ў рукі ўзялі і сам Аляксандр Лукашэнка, і тры ягоныя сыны — Віктар, Дзмітрый і Мікалай. Што сведчыць пра нейкую асаблівую сімвалічнасць, якую Аляксандр Лукашэнка надае новаму палацу, выкананаму чамусьці не ў еўрапейскім, а ў нейкім усходнім стылі.



Што ж тычыцца асноўных мерапрыемстваў, то яны запланаваны на сёння, на пятніцу.

Папярэдне было вядома, што ў парадак дня саміту СНД уключаны 14 пунктаў, у тым ліку падрыхтоўка да святкавання 70-годдзя Перамогі. Многія эксперты, праўда, лічаць, што саміты СНД ужо нельга разглядаць як нейкі працаздольны орган, які прымае рашэнні па сур'ёзных пытаннях. Хутчэй гэта клуб па інтарэсах, дзе кіраўнікі некаторых краін былога СССР сустракаюцца і абмяркоўваюць самыя розныя аспекты жыцця. Таму менавіта тое, як сустрэнуцца яны на гэты раз і як будзе выкарыстана "пляцоўка для дыялогу", і выклікае найбольшую цікавасць.

Напярэдадні назіральнікі гадалі, што скажуць адзін аднаму прэзідэнт Расіі Уладзімір Пуцін і кіраўнік Украіны Віктар Януковіч. Стаўленік Расіі (а менавіта так у свой час называлі былога "чырвонага дырэктара" Януковіча) упэўнена павёў сваю краіну ў бок Захаду, у Еўрасаюз, цалкам праігнараваўшы імперскія амбіцыі суседа і "старэйшага брата".

Другая сустрэча з падтэкстам — сустрэча Уладзіміра Пуціна і Аляксандра Лукашэнкі. З аднаго боку, ці стане падчас яе прадметам абмеркавання вызваленне генеральнага дырэктара "Уралкалия" Уладзіслава Баўмгертнера, з другога — ці вырашыцца пытанне наконт аб'ёмаў паставак расійскай нафты ў нашу краіну, паколькі без яе беларускі бюджэт сядзіць на галодным пайку.

Ды і паміж іншымі прэзідэнтамі ёсць шмат канфліктных пытанняў, таму журналістаў кожнай з краін цікавяць свае аспекты.

Першым, у раёне абеду ў чацвер, у Мінск прыбыў прэзідэнт Таджыкістана Эмамалі Рахмон. Пасля яго — кіраўнік Арменіі Серж Саргсян. Прыблізна праз паўгадзіны — кіраўнік Казахстана Нурсултан Назарбаеў... А далей ужо нашы дзяўчаты з хлебам-соллю і ротай ганаровай варты толькі паспявалі сустракаць гасцей. Мінск стаў сталіцай "вялікай палітыкі".

**Ігар МАРОЗАЎ.**

ЗАКУЛІССЕ

## Прэзідэнт Кыргызстана не прыехаў

*Саміты ў Мінску праходзяць без удзелу прэзідэнта Кыргызстана Алмазбека Атамбаева. Кыргызстан у пасяджэннях Вышэйшага Еўразійскага эканамічнага савета і Савета кіраўнікоў дзяржаў СНД прадстаўляе ўсяго толькі першы віцэ-прэм'ер Джаамарт Атарбаеў.*

У прэс-службе прэзідэнта Кыргызстана не растлумачылі прычыну адсутнасці Алмазбека Атамбаева на пасяджэннях у Мінску. Аднак нельга не ўзгадаць, што ў апошні час Кыргызстан і Беларусь, як кажуць, "абмяняліся заявамі". Аляксандр Лукашэнка, сустракаючыся з галоўнымі рэдактарамі з краін СНД, заявіў, што афіцыйны Бішкек, які імкнецца да членства ў Мытным саюзе, павінен зняць свае патрабаванні да Беларусі аб выдачы экс-прэзідэнта гэтай краіны Курманбека Бакіева. У адказ прэзідэнт Кыргызстана зноў абвінаваціў афіцыйны Мінск ва ўкрывальніцтве і іншых злачынцаў. У прыватнасці, ён заявіў, што беларускія ўлады пакрываюць арганізатараў нядаўніх сутыкненняў на поўдні Кыргызстана.

"З пачатку года ў Ісык-Кульскай вобласці не сціхаюць канфлікты. Нейкія п'яныя людзі захопліваюць пансіянаты, абласныя адміністрацыі, не задумваючыся аб турыстычным сезоне... Усе арганізатары і вінаватыя ў беспарадках, якія адбыліся ў апошні час на Ісык-Кулі, панясуць належнае пакаранне. Адзін з іх сядзіць у Мінску", — сказаў прэзідэнт Кыргызстана.

РАКУРС

## Хто каго сустракаў

*Пра міжнародныя адносіны, узровень павагі, зацікаўленасці краін адна ў адной мова пратакола часта гаворыць больш, чым якія словы.*

Напрыклад, вельмі важна, хто канкрэтна з чыноўнікаў ад боку гаспадара сустракае высокую асобу, якая прыбыла з візітам у тую ці іншую краіну.

Прэзідэнта Расіі Уладзіміра Пуціна ў мінскім аэрапорце ўчора сустракаў асабіста кіраўнік беларускага ўрада Міхаіл Мясніковіч. А вось усіх астатніх прэзідэнтаў, у тым ліку і Нурсултана Назарбаева, сустракалі першы намеснік міністра замежных спраў Аляксандр Міхневіч і міністр транспарту і камунікацый Анатоль Сівак.



**Напярэдадні саміту.**

БОЛЬ

## *Рашэнне аб лёсе Курапатаў адкладзена*

З парадку дня пасяджэння Навуковага савета Міністэрства культуры знялі пытанне аб стварэнні ахоўнай зоны ва ўрочышчы Курапаты.

Пытанне было адкладзена з-за недасканалай падрыхтоўкі. Аб гэтым "Народнай Волі" паведаміла крыніца ў Мінкульце. Хутчэй за ўсё ўдакладненні не зоймуць шмат часу, і ўжо праз тыдзень пытанне можа вярнуцца ў парадак дня савета. Варта адзначыць, што Мінкульт спецыяльна вынес пытанне аб Курапатах на абмеркаванне. Праект вельмі складаны з маральнага і тэхнічнага боку. Мэта грамадскіх актывістаў — не дапусціць змяншэння ахоўнай зоны вакол месца расстрэлаў.

Сёння вакол урочышча ідзе актыўнае будаўніцтва. Побач размясціўся пасёлак таўнхаўсаў "Сонечны", прыпынена будаўніцтва скандальнага забаўляльнага цэнтра "Бульбаш-хол". Хутчэй за ўсё перанос пытання па Курапатах звязаны менавіта з незадаволенасцю інвестараў.

План ахоўнай зоны на месцы расстрэлаў ахвяр сталінскага рэжыму па замове праектнага інстытута "Мінскграда" распрацаваў архітэктар-рэстаўратар **Вадзім Гліннік**. Як будзе выглядаць ахоўная зона, чым яна будзе адметнай, стане вядома толькі тады, калі Мінкульт прыме праект.

Між тым спецыялісты і зацікаўленыя грамадскія актывісты ўпэўнены, што пасяджэнне будзе сапраўды гарачым.

**Марыя МАЛЕВІЧ.**

ДА ЎВАГІ!

## *Час не зменіцца*

У ноч на нядзелю, 27 кастрычніка, стрэлкі гадзіннікаў у Еўропе перавядуць на гадзіну назад, і краіны вернуцца на зімовы час.

А вось Беларусь гадзіннікі не пераводзіць, азіраючыся на Расію, дзе ў 2011 годзе адмянілі зімовы час. Такім чынам, ад 27 кастрычніка розніца ў часе паміж Мінскам і Вільнюсам будзе складаць адну гадзіну, паміж Мінскам і Варшавай (Берлінам, Парыжам) — дзве гадзіны.

Найбольш паказальна гэта праяўляецца на мяжы. Калі, напрыклад, у Брэсце будзе 8-я гадзіна раніцы, то ў блізкалеглым Тэрэспалі — усяго шэсць гадзін раніцы.

Што тычыцца вільнюскіх цягнікоў, то адпраўляцца з Мінска яны будуць, як і раней, у 07.40, але прыбываць у сталіцу Літвы на гадзіну раней — 09.10, 11.33, 12.05, 20.20 паводле літоўскага (усходнееўрапейскага часу).

А вось расклад аўтобусаў з Мінска зменены, так што звяртайцеся ў даведачныя службы.

ТРЫМАЙЦЕСЯ!

## Альбо чарка, альбо машына

*У Беларусі з учарашняга дня ўступілі ў сілу папраўкі ў некаторыя кодэксы, якія ўзмацняюць адказнасць за кіраванне транспартным сродкам у стане ап'янення.*

У прыватнасці, змяняецца арт.61 КК. Будзе прымяняцца канфіскацыя транспартнага сродку, у тым ліку таго, якое не з'яўляецца ўласнасцю п'янага кіроўцы, у выпадках узбуджэння справы па арт.317-1 "Кіраванне транспартным сродкам асобай, якая знаходзіцца ў стане ап'янення, перадача кіравання транспартным сродкам такой асобе або адмова ад праходжання праверкі (агляду)" КК. Канфіскацыя не будзе тычыцца выпадкаў, калі аўтамабілем завалодалі ў выніку крадзяжу, самавольства і іншых.

Пры гэтым маецца на ўвазе толькі канфіскацыя ў рамках крымінальнага заканадаўства, то бок гаворка ідзе аб паўторным выпадку кіравання транспартам у стане ап'янення на працягу года. Што тычыцца КаАП, то ў гэтым кодэксе істотна павялічаны сумы штрафаў: з 15—35 базавых велічынь да 50—100.

Унесены дапаўненні ў арт.317 "Парушэнне правілаў дарожнага руху або эксплуатацыі транспартных сродкаў" КК. Калі раней ап'яненне ў такім выпадку лічылася абцяжваючай акалічнасцю, то цяпер ў артыкул уводзяцца дзве часткі, якія тычацца менавіта нецвярозых кіроўцаў. Згодна з часткай 4, п'яны кіроўца, па віне якога прычынена цяжкае цялеснае пашкоджанне ці загінуў чалавек, можа атрымаць ад шасці месяцаў да сямі гадоў пазбаўлення волі. Частка 5 за гібель двух і больш чалавек у ДТЗ па віне нецвярозага кіроўцы прадугледжвае ад чатырох да дзесяці гадоў пазбаўлення волі. Пры гэтым ніякіх альтэрнатыўных варыянтаў пакаранняў за такія злачынствы ў кодэкс не ўводзіцца.

БЕЛАРУСЬ—ЕЎРОПА

## *Візіт еўрадэпутатаў у Мінск зноў перанесены*

Запланаваны на канец кастрычніка візіт дэлегацыі Еўрапарламента па справах Беларусі ў Мінск не адбудзецца. Пра гэта паведаміў старшыня дэлегацыі Філіп Качмарэк. *"Мы не атрымалі ніякай інфармацыі з беларускай амбасады. Візіт не можа адбыцца",* — патлумачыў ён.

Два тыдні таму старшыня дэлегацыі Еўрапарламента па справах Беларусі накіраваў спецыяльны ліст у Пасольства Беларусі ў Брусэлі з просьбай выдаць візы чатыром дэпутатам Еўрапейскага парламента з мэтай афіцыйнага візіту ў Беларусь.

Першы сакратар беларускага прадстаўніцтва ў Брусэлі Яраслаў Васільеў паведаміў, што з Міністэрства замежных спраў Беларусі яшчэ няма адказу.

Візіт еўрадэпутатаў у Беларусь адкладзены другі раз. Першапачаткова дэпутаты планавалі наведаць Мінск у ліпені. Тады бакі не змаглі дамовіцца, паколькі беларускі бок перадумовай візіту паставіў сустрэчы еўрадэпутатаў з непрызнанымі Брусэлем дэпутатамі Беларускага парламента.

ПРАТЭСТ

## *Эколагі патрабуюць спыніць будаўніцтва АЭС*

Заклікаць улады і міжнародную супольнасць неадкладна спыніць будаўніцтва атамнай электрастанцыі ў Астраўцы — такую заяву прынялі на Форуме грамадскіх экалагічных арганізацый Беларусі, на які сабраліся больш за 120 прадстаўнікоў Беларусі, Расіі, Украіны, Казахстана і Нарвегіі.

Гэта трэці па ліку заклік эколагаў, прыняты на прадстаўнічым форуме. Раней, у 2009-м і 2011-м, былі прыняты рэзалюцыі, якія заклікалі адмовіцца ад будаўніцтва беларускай АЭС і пачаць развіццё аднаўляльнай энергетыкі. Рэзалюцыя прагучала да афіцыйна заяўленага пачатку асноўнага этапу будаўніцтва, запланаванага на 5 лістапада.

На сённяшні дзень у Беларусі няма эколагаў, якія б станоўча ставіліся да будаўніцтва АЭС, за выключэннем адной арганізацыі — "Экалагічнай ініцыятывы". Менавіта яе старшыня Юрый Салаўёў атрымаў адну з антыпрэмій форуму "за імітацыю грамадскага кантролю за будаўніцтвам АЭС". Пра тое, як і навошта з'яўляюцца такія псеўданезалежныя арганізацыі, мы раскажам у адным з бліжэйшых нумароў.

Незалежныя эколагі звяртаюць увагу на той факт, што будаўніцтва нулявога цыкла па ўзвядзенні рэактарных будынкаў вялося да з'яўлення архітэктурнага праекта і адпаведнай ліцэнзіі. Да таго ж яны непакояцца, што будаўніцтва на Астравецкай пляцоўцы вядзецца да завяршэння кансультацый з краінамі-суседзямі, а грамадскасць па-ранейшаму не ўдзельнічае ў прыняцці рашэнняў.

**Любоў ЛУНЁВА.**

ЮБИЛЕЙ

Сергей СКРЕБЕЦ

# Мне 50 лет. Итоги



## Курьезы

Когда я сидел в колонии, как-то вызвал меня начальник зоны и говорит: "Читай, я за долгие годы такое в первый раз вижу". Читаю. В письме, подписанном начальником 510-го отделения "Беларусбанка", написано: "Гражданин Скребец С. Н., находящийся у вас в тюрьме, слишком мало платит нам по долгам. В связи с этим не могли бы вы перевести его на более тяжелую работу, чтобы он платил больше".

Им было мало того, что они засадили меня в тюрьму и подвергли пыткам! Хотели больше!

## Сходил в бассейн

Меня арестовали, когда я шел в бассейн на тренировку. Потому во время обысков (а их за полтора года было более сотни) мне все время приходилось доставать из рюкзака плавательные очки и плавки. Контролеры удивлялись: "Зачем тебе это в тюрьме?.." Действительно, мы же не на краю света, в Австралии, в наших зонах нет бассейнов.

## Анекдот

Сидят два зека в камере. Передач нет, дороги нет (в том смысле, что между камерами передачи тоже не налажены), курева нет. Начинают травить истории. Один говорит: "Представляешь, между третьей и четвертой ходкой решил я слетать отдохнуть на Канары. Лежу я, значит, на пляжУ, курю LM (в зоне это круто), подходят ко мне две шикарные девахи и говорят: "Мужчина, угостите папироской". Я такой отвечаю: "Конечно-конечно..." Открываю тумбочку, а там — чай, пряники..."

## Политика

Когда я в 2001 году, будучи депутатом, решил баллотироваться в президенты, меня вызвали в один кабинет и сказали: "Раньше за такие вещи убивали, намекнув на известных лиц, но теперь будешь просто сидеть. Думай".

Действительно, пришлось отсидеть. Мои друзья... Коля Статкевич сидит, Володя Парфенович не нашел в Беларуси работы даже в детской спортшколе, зато стал главным тренером российской сборной, Толя Красовский пропал без вести — думаю, убит... Остались Валерий Фролов и Владимир Новосяд. Сам я 9 лет без работы, выезд из страны мне запрещен, судебные исполнители преследуют не только меня, но и родителей, семью брата и так далее и тому подобное. Как и большинство нашего населения, сейчас веду почти нищенский образ жизни. Вот такие итоги.

## Бизнес

Бизнесом не занимаюсь. Сегодня мелкому бизнесу рекомендовано сдохнуть, среднему служить местной власти, а крупному — так называемой "семье".

Я последние три года работал у одного предпринимателя из Барановичей. Неофициально помогал ему бизнес отстраивать в Минске. Работал и за грузчика, и за курьера, и за продавца. Но как только он в Минск переехал, то сразу от меня избавился, выкинул на обочину. Аккурат за 10 дней до моего юбилея. Даже спасибо не сказал.

## Успехи

Мои успехи за 50 лет?..

Вот недавно моему коллеге по сопротивлению Диме Бондаренко было 50. С удовольствием прочитал его интервью по этому поводу. Даже позавидовал: как много человек успел сделать! И СССР с Шушкевичем развалили, и выборы с Санниковым выиграл, и много всего такого, для чего обычному человеку и десяти жизней бы не хватило.

Я, к сожалению, не летал на ядре на Луну, не вытягивал себя за волосы из болота, не стрелял в оленя вишневой косточкой... Просто закончил школу с золотой медалью, получил два высших образования, у меня сын, две дочери и чистая совесть. Вот, пожалуй, и все достижения.

В наше тяжелое для страны время, которое называется безвременьем, большего достигнуть не удалось. Холуем у Лукашенко служить тошно, бежать за границу стыдно, что делать — непонятно.

### ДОСЬЕ

Сергей Николаевич Скребец родился 25 октября 1963 года. Политик, бизнесмен, депутат Палаты представителей Национального собрания Республики Беларусь 2-го созыва, руководитель оппозиционной депутатской группы "Республика", претендент на пост президента Республики Беларусь на выборах 2001-го и 2006 годов.

Родился в городе Лида, белорус. Имеет два высших образования — окончил Белорусский политехнический институт, инженер-металлург; Белорусский государственный университет, юрист.

1985—1990 гг. — инженер-технолог, мастер участка печатных плат. Научно-исследовательский институт средств автоматизации НПО "Агат", г.Минск.

1990—1991 гг. — коммерческий директор минского госрасчетного научно-технического центра "Минск-Партнер".

1991—1992 гг. — заведующий сектором коммерции и маркетинга в республиканском штабе студенческих отрядов ЦК ЛКСМБ, заведующий отделом коммерции и маркетинга Службы занятости молодежи и студентов.

1993—1997 гг. — совместное предприятие "Тэйкоф". Коммерческий директор.

1997—2000 гг. — закрытое акционерное общество Торговый дом "Бел-Бабаевское" (представитель российского кондитерского концерна в Беларуси, г.Минск). Генеральный директор.

2000—2004 гг. — депутат Палаты представителей Национального собрания Республики Беларусь, заместитель председателя постоянной комиссии по бюджету, финансам и налоговой политике. С мая 2003 года — руководитель депутатской группы "Республика" Национального собрания Республики Беларусь.

14 февраля 2006 года Сергей Скребец был осужден на два с половиной года лишения свободы. К нему была применена амнистия, в связи с которой срок наказания сокращен на год. Вышел на свободу 15 ноября 2006 года после полутора лет заключения. За время заключения потерял 30 килограммов веса, так как неоднократно в знак протеста объявлял голодовки.

ЭКСПЕРТЫЗА

# Дзе браць?

*Беларусі трэба знайсці 8 мільярдаў долараў замежнага фінансавання. Такі прагноз прыводзіцца ў эканамічным аглядзе, які падрыхтавалі эксперты Сусветнага банка.*

Аўтары агляду чакаюць, што дэфіцыт рахунку бягучых аперацый плацежнага балансу павялічыцца ў 2013 годзе да 8,9% ВУП (супраць 2,9% ВУП у 2012 годзе). У наступным годзе, мяркуюць эксперты Сусветнага банка, дэфіцыт рахунку бягучых аперацый крыху зменшыцца (у сувязі з абмежаваннем унутранага попыту) і складзе 8,1%.

Высокія паказчыкі дэфіцыту рахунку бягучых аперацый абумовяць рост патрэбнасці Беларусі ў знешнім фінансаванні, лічаць аўтары агляду.

"Валавыя патрэбнасці ў знешнім фінансаванні (выключаючы кароткатэрміновы доўг), якія растуць з прычыны значных абавязацельстваў па пагашэнні доўгатэрміновага знешняга доўгу (уключаючы МВФ), узрастуць да 8 мільярдаў долараў ЗША, што акажа ціск на ўстойлівасць плацежнага балансу", — мяркуюць эксперты Сусветнага банка.

Улічваючы ніжэйшы, чым чакалася, прыток прамых замежных інвестыцый, "выкананне дадзеных абавязацельстваў будзе спалучана з сур'ёзнымі цяжкасцямі для эканомікі, асабліва ва ўмовах націску ліквіднасці на сусветных фінансавых рынках", прагназуе банк.

Улічваючы, што "слабыя паказчыкі эканамічнай дзейнасці будуць працягваць аказваць негатыўны ўплыў", чакаецца бюджэтны дэфіцыт (0,7% ВУП). *"У той жа час больш значныя, чым чакалася, працэнтныя субсідыі і плацяжы па абслугоўванні знешняга доўгу (з прычыны паслаблення рубля) створаць ціск на бюджэтныя расходы",* — адзначаюць эксперты Сусветнага банка.

Аўтары эканамічнага агляду таксама звяртаюць увагу на рост ціску на рахунак бягучых аперацый плацежнага балансу.

*"У студзені—жніўні 2013 года хуткае скарачэнне экспарту (-22,7% у цэнах FOB) перавысіла падзенне імпарту (-10,4%), у выніку чаго дэфіцыт знешняга гандлю таварамі склаў амаль 2 мільярды долараў ЗША (у параўнанні з прафіцытам у 2,3 мільярда годам раней), што склала 2,8% ВУП у гадавым выражэнні. Павелічэнне дэфіцыту знешняга гандлю нароўні з адмоўнымі чыстымі паступленнямі экспартных мытных пошлін на нафтапрадукты заставаліся асноўнымі прычынамі дэфіцыту рахунку бягучых аперацый, які ў першай палове 2013 года перавысіў 3 мільярды долараў ЗША",* — гаворыцца ў аглядзе Сусветнага банка.

Пагаршэнне сітуацыі ў плацежным балансе, канстатуюць эксперты, прыводзіць да зніжэння золатавалютных рэзерваў Беларусі.

*"З пачатку года золатавалютныя рэзервы (за мінусам манетарнага золата) скарачаліся, дасягнуўшы ўзроўню ў 5,5 мільярда долараў, ці прыкладна 1,6 месяца тапарнага імпарту. Націск на плацежны баланс узмацняецца за кошт значных абавязацельстваў па пагашэнні знешняга доўгу, уключаючы МВФ",* — канстатуюць эксперты Сусветнага банка.

ПО ПОВОДУ

Михаил ПАСТУХОВ:

# «Наша тюремная система застыла на уровне сталинской эпохи»

*Не так давно в "Народной Воле" было опубликовано письмо политзаключенного Николая Автуховича, в котором он рассказывает о тюремных порядках. Это письмо всколыхнуло не только Беларусь, но и Европу. Акции солидарности с Автуховичем провели правозащитники многих европейских стран. Мы попросили оценить тюремную систему Беларуси доктора юридических наук, профессора, в прошлом — судью Конституционного суда Беларуси* ***Михаила ПАСТУХОВА.***

— То, что написал Николай Автухович, считаю достоверным, — *говорит Михаил Иванович.* — Это действительно письмо из ада, который царит в белорусских тюрьмах и колониях. Общественность узнала о том, в каких условиях оказываются осужденные к лишению свободы. Из прочитанного можно сделать вывод, что наша тюремная система прогнила и обветшала. Она застыла на уровне сталинской эпохи, когда многие зэки делали наколки "Раб Сталина".

Судя по письму Н.Автуховича, в нынешних тюрьмах с того времени мало что изменилось: и в отношении к заключенным, и в питании, и в санитарно-бытовом обслуживании. Фактически "сидельцы" тюрем и колоний находятся на положении рабов, разве что ходят без кандалов. Никто не защищает их права. Единственным средством обратить внимание на свою ситуацию стало вскрытие живота, как в случае с Н.Автуховичем, или перерезание вен, что пытался сделать Н.Статкевич.

Совершенно очевидно, что пенитенциарная система Беларуси нуждается в серьезной модернизации. Условия пребывания в тюрьмах, колониях, следственных изоляторах должны быть приведены в соответствие с общепризнанными стандартами, в частности Минимальными стандартными правилами обращения с заключенными, которые были приняты на специальном Конгрессе ООН по предупреждению преступности и обращению с правонарушителями в 1955 году.

Осужденных к лишению свободы государство не должно превращать в рабов, которых кормят, как животных, и к которым относятся, как к второсортным. Очевидно, что необходимо обеспечить контроль общественности за всеми местами лишения свободы с правом посещения тюрем и колоний. Осужденные должны свободно общаться по телефону, интернету и путем свиданий со своими близкими, иметь возможность учиться, играть в спортивные игры. Более того, они вправе покидать места "отсидки" на выходные и в период ежегодных отпусков, дав соответствующие обязательства.

Письмо Н.Автуховича показало, что прокурорский надзор за законностью в местах лишения свободы носит формальный характер, а жалобы осужденных на действия администрации часто не доходят до прокуроров. Это положение надо также менять. Письма осужденных, как и других граждан, вообще не могут просматриваться без законных на то оснований. Для рассмотрения жалоб осужденных целесообразно ввести должность судьи по пенитенциарным вопросам в районах, где располагаются места лишения свободы.

*По словам* ***Михаила Пастухова****, многое следует изменить в этой закрытой для общества сфере, и прежде всего создать человеческие условия при отбывании уголовных наказаний.*

"Эта сфера должна постоянно находиться в поле зрения общественности и соответствующих экспертов", — *резюмирует юрист.*

**Подготовил Александр НИКОНОРОВ.**

ФОТАФАКТ



*Аляксандр Мілінкевіч пасля аперацыі адчувае сябе добра і кажа, што знаходзіцца ў выдатнай форме.*

*"Я замяніў сустаў, аперацыя прайшла вельмі паспяхова, — расказаў палітык. — Я за месяц ужо хаджу без мыліц, ды і палачка толькі для падстрахоўкі. Зараз я раблю практыкаванні па распрацоўцы сустава. Яшчэ месяц трэба пазаймацца, але я актыўна працую і планёркі праводжу".*

КАРУПЦЫЯ

# Арыштаваны намеснік старшыні Быхаўскага райвыканкама

Распачата крымінальная справа ў дачыненні да першага намесніка старшыні Быхаўскага райвыканкама.

Пракуратурай Магілёўскай вобласці ўзбуджана крымінальная справа ў дачыненні да першага намесніка старшыні Быхаўскага раённага выканаўчага камітэта па прыкметах злачынства, прадугледжанага ч.3 арт.426 КК (перавышэнне службовых паўнамоцтваў, здзейсненае асобай, якая займае адказнае становішча, з карыслівай і іншай асабістай зацікаўленасці). Пра гэта БелаПАН паведаміла старэйшы памочнік пракурора вобласці **Ала Кузняцова.**

Па яе словах, падставай для ўзбуджэння крымінальнай справы паслужылі дакладна ўстаноўленыя дадзеныя аб тым, што чыноўнік на працягу доўгага прамежку часу ў асабістых мэтах незаконна выкарыстоўваў службовы аўтамабіль іншай арганізацыі, якая знаходзілася ў яго падначаленні ў сувязі з займаемай пасадай. Кіруючы гэтым аўтамабілем, дадзены грамадзянін здзейсніў ДТЗ, у выніку якога аўтамабіль атрымаў значныя механічныя пашкоджанні. Жадаючы пазбегнуць матэрыяльных выдаткаў на аднаўленчыя рамонтныя работы, намеснік старшыні райвыканкама даў незаконныя ўказанні аб аплаце рамонтных работ за кошт арганізацыі, на балансе якой знаходзіўся аўтамабіль. У выніку дадзеная арганізацыя панесла неабгрунтаваныя выдаткі па аплаце паслуг аўтарамонтнай майстэрні. У цяперашні час праводзяцца следчыя дзеянні, неабходныя для ўстанаўлення ўсіх абставін здзейсненага злачынства. Падазроны затрыманы і змешчаны ў ізалятар часовага ўтрымання.

ОТ ПЕРВОГО ЛИЦА

# «Иду по Минску, и у меня ком в горле»

*Арест... Опала... Слава и признание в соседней стране. Именно такой путь прошел наш земляк, член Объединенной гражданской партии Александр РЕЗНИКОВ.*

*Председатель ОГП Анатолий Лебедько встретился с Александром и расспросил эмигранта о его нынешней жизни.*

**— Александр, по итогам 2011 года ты был признан лучшим молодым артистом Польши. Причем не среди эмигрантов, а среди всех молодых польских артистов. Мы тебя поздравляем! Но давай начнем разговор с того, кем Саша Резников был тут, до эмиграции?**

— Спасибо за поздравления.

Здесь я начинал одним из ведущих молодежной программы "5Х5" на белорусском телевидении. У меня была своя рубрика, называлась "Гнусные мысли с Сашей Резниковым": одни говорят, вторые говорят, потом выходил я и всех их... затыкал. Все шло хорошо, пока я во время эфира программы "5Х5" про возрождение белорусских пионеров не сказал: "Какие пионеры? Что это еще президент выдумал? Почему мы возвращаемся в прошлое?.." И так далее. Естественно, меня сразу же уволили.

Потом я был студентом Белорусской государственной академии искусств и на третьем курсе уже работал в Театре белорусской драматургии. Отсюда меня уволили сразу же после моего выхода из тюрьмы за участие в акции протеста после президентских выборов — за Площадь.

**— А как ты попал на Площадь?**

— Сначала я пошел на акцию в 2006 году. Это не было какое-то серьезное решение. Я тогда уже играл в театре, и у меня была очень маленькая зарплата. На ту зарплату, 90 долларов, даже хлеба нельзя было вдоволь купить. В общем, стал я очень сильно



злиться на эту систему и решил: "Сколько можно терпеть?!" И я пошел. Стоял четыре дня и четыре ночи. После президентских выборов 2006 года, напомню, был палаточный лагерь. Вот оттуда меня и забрали, как и всех, на Окрестина.

Получил 15 суток. Это был перелом. До этого у меня еще была надежда, что стану актером, что все будет нормально. Из тюрьмы я вышел в три часа ночи, а в семь утра позвонил директору театра, договорился с ним о встрече, чтобы как-то объяснить, почему меня так долго не было. Он был такой доброжелательный, так был рад, что я ему позвонил: "Да, Сашенька, приходи, приходи..." Я пришел. А он говорит: "Знаешь, Саша, я за свою жизнь столько вождей повидал — и Сталина, и Брежнева, и Горбачева, и всех. Но вот сейчас я директор театра. И я не хочу потерять свою должность".

Тогда я все понял.

**— Директор хотел пережить очередного вождя, а ты имел волю и желание жить...**

— Да. Меня уволили, и я пришел в Объединенную гражданскую партию. По совету друзей. И, пока я был в Беларуси, ходили на пикеты, что-то организовывали, куда-то ездили, — боролись... Но **реализовать себя как творческая личность я не мог.** Пробовал устроиться в Театр Белорусской армии, прошел прослушивание. Всем очень понравилось мое выступление, но после этого ко мне подошла женщина (то ли директор, то ли замдиректора) и сказала: "Все хорошо, все здорово, но только у нас мест нет". А я точно знал, что у них тогда людей не хватало. И тогда я понял, что это все связано, что в ближайшие пять-десять лет никакого шанса работать в Беларуси у меня не будет.

**— То есть ты думаешь, что есть какой-то черный список?**

— Я думаю, что в театральной системе точно есть.

**— Я помню, как Александр Резников выходил с гитарой на митингах и, как говорит молодежь, "зажигал". А потом уехал доучиваться в Польшу по программе Калиновского. Это хорошо, что есть такая возможность — доучиться, если за политическую активность отчислили из белорусского вуза. Но меня вот что тревожит: по программе Калиновского уезжает учиться много людей — десятки, сотни... Но потом эти люди где-то теряются. Что происходит?**

— Отвечу на этот вопрос в первую очередь для тех, кто еще хочет поехать учиться по программе Калиновского. Ребята, там красной дорожки не будет. В той же Польше поляк, который сдавал экзамены и поступал в институт, будет учиться, стараться, держаться до последнего, чтобы дойти до диплома. Потому что некоторые из них платят деньги за учебу. А наши что? В 2006 году поехали ребята и думали, что диплом им как-то просто так дадут. Но там никто ни за кем не бегает: хочешь учиться — учись, нет — тогда нет. И те, которые хотели, дошли до конца. А те, кто не готов был пахать, — они отпали, их выгнали.

**— Ты дошел. Чем сегодня занимаешься?**

— Сегодня я актер музыкального театра в Гдыне. Это один из лучших, один из самых известных театров в Польше. Мы ставим такие известные мюзиклы, как "Шрек", "Монти Пайтон". Наши спектакли получают престижные мировые театральные премии. Огромный театр с залом на 1070 мест. Одним словом, я нашел себя. Я играю, я востребован... Но не в Беларуси. И, конечно, больно, что это там, а не здесь. Знаете, я два года не был в Беларуси и сейчас иду по городу, и у меня просто ком в горле. Сердце тут осталось, это тело там.

**— Ты, человек, который любит Беларусь, который родился в Минске, тем не менее живешь в Польше, платишь налоги в Польше, работаешь на Польшу... И так поступают тысячи и тысячи белорусов, уезжая из страны.**

— Мне кажется, что наша страна многое теряет. Я не хочу говорить про себя, себя хвалить, я говорю обо всех уехавших. Народ убегает, потому что им здесь жить не нравится, не нравятся нынешние порядки. Убегают именно те люди, которые умеют думать, которым хочется жить нормально, хочется, чтобы их родители, их мамы, папы, бабушки, дедушки жили нормально. Когда я был ребенком, моя мама из кожи вон лезла, чтобы привезти мне кусок хорошего сыра, в Смоленск ездила за этим сыром... Так почему я сейчас не должен сделать то же самое для нее? Но в нашей стране, чтобы обеспечить родителям достойную старость, надо или воровать, или уезжать. Воровать я не хочу.

**— Ты был актером в белорусском театре, а теперь актер в польском. Если сравнивать все: и возможность реализовать свой талант, и материальную составляющую — какие отличия?**

— В Беларуси я был никто. Я был куколкой, которая стояла где-то сзади и говорила: "Кушать подано". Зарплата понятно какая — ужасная, позорная, которой ни на что не хватало. Система оплаты в нашем театре была такая: сколько спектаклей отыграл, сколько часов отработал, столько и получишь. В Польше по-другому: там есть основная зарплата, которую ты получаешь всегда, и отдельная зарплата за каждое представление. И вот за эти представления уже можно нормально жить.

**— А как на личном фронте?**

— На личном фронте все очень хорошо. Есть любимая, уже почти жена...

**— Это значит, что не только в профессиональном, но и в личном плане Александр Резников себя уже практически реализовал?**

— На данном этапе — да.

**— Представь себе другую ситуацию: перемены уже стучатся в белорусские двери, они уже пришли. Уже нет режима, который душит думающих людей. Есть ли вероятность, что лучший молодой актер Польши Александр Резников (да и многие другие) вернется в Беларусь?**

— Я думаю, что да, конечно. Потому что я на себе почувствовал, что эмиграция... болит. Первый год не болело, второй год не болело, но потом началось... Начало грызть, что не хватает мне моей Родины. Почему я должен жить в другой стране? Даже если гражданство получил, это неважно, ведь это в сердце.

Мне кажется, что когда придет этот момент, когда будет в Беларуси свободный рынок, когда можно будет работать в профессии, то народ полетит обратно. Потому что свое гнездышко — оно зовет.

**Совместный проект газеты "Народная Воля" и ОГП-ТВ.**

ПОСТАЦІ

# П.М.МАШЭРАЎ: «Цяпер я ведаю...»

*(Заканчэнне. Пачатак у №83.)*

Крытыкі, што называецца, адразу "адвалілі", а экскурсію-агляд павяла Грамыка. Пётр Міронавіч нічога ў яе не пытаўся, не перапыняў. Ён толькі слухаў і глядзеў, глядзеў і слухаў. Відаць было, што карціны зрабілі на яго вельмі моцнае ўражанне і па-сапраўднаму ўсхвалявалі. Дарэчы, у мяне ёсць каля дзясятка аматарскіх здымкаў пра тое, як Машэраў глядзіць Савіцкага. Іх выпадкова зрабіў малады мастак з Віцебска.

Да машыны Пётр Міронавіч ішоў моўчкі. І ў машыне таксама маўчаў. Толькі каля танка-помніка, што каля самага будынка ЦК, вымавіў:

— Нарэшце ён вырваўся. — І нібы схамянуўся. — Міхаіл Андрэевіч нарэшце вырваўся. — І зноў маўчанне.

Адбылося прызнанне майстра. Пазней яго вынікам было адкрыццё спецыяльнай карціннай галерэі "Лічбаў на сэрцы" ў будынку Музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны. А тады, у машыне, падумалася: хто ж гэта і навошта паведаміў тым двум мастакам і "аматару" выяўленчага мастацтва з іняза, што П.М.Машэраў паехаў у Палац мастацтва, калі пра тое ведалі толькі ён і я? Нават ахоўніка не было з намі...

Дарэчы, пра асобную ахову Пятра Міронавіча. На той час мы не ведалі такіх паняццяў, як спецназ, АМАП, асобы міліцэйскі батальён, мабільная брыгада МУС, міліцэйскі шчыт, шлем, бронекамізэлька для ахоўніка і ахоўваемага. Усё гэта шчасце разам з трэніраванымі на людзей ваўкадавамі прыйдзе пазней. Нічога пералічанага, акрамя палкоўніка Сазонкіна — абаяльнага і добразычлівага чалавека, пры Пятру Міронавічу не было, калі не лічыць напарніка-зменшчыка Сазонкіна і міліцэйскага паста ў пад'ездзе дома, дзе жыла сям'я Першага сакратара ЦК КПБ і кандыдата ў члены Палітбюро ЦК КПСС. Тут ужо хочаш ці не хочаш, а будзеш цярпець ахову. Тут ужо была інструкцыя і парадак па інструкцыі. І тым не менш ён вельмі часта не браў ахоўніка ні ў машыну, ні ў верталёт, з якога не вылазіў вясну, лета і восень. Любіў футбол, але не выходзіў на футбольнае поле ці лёд у буцах ці з клюшкай. Спартландыю з Беларусі не рабіў, лядовымі палацамі не захапляўся. З усіх "уцех" быў у яго верталёт з маскоўскім экіпажам.

Муж маёй сястры Павел Станішэўскі, былы бухгалтар калгаса імя Фалько з Дзяржыншчыны, без асаблівага здзіўлення расказваў, як аднойчы на ўскрайку жытняга поля раннім ранкам спусціўся верталёт, з якога выйшаў Машэраў, памахаў майму сваяку рукой, каб той яго пачакаў, парукаўся пры сустрэчы, і яны накіраваліся да камбайна, які чакаў, пакуль асядзе начная раса. І ніякіх ахоўнікаў вакол яго не было. І сам ён не баяўся, што бухгалтар выстраліць у яго з шарыкавай ручкі, а камбайнер кінецца з гаечным ключом. Пагаманілі мужчыны пра сялянскія справы і развіталіся палюдску. Камбайнер пачаў жніво, а ён паляцеў, каб зноў апусціцца дэсантам там, дзе яго менш за ўсё чакала мясцовае начальства. І не набываў ён сабе ні ўласнага самалёта, ні цеплахода, ні камуфляжнай ці маршальскай формы, і ніхто не прымушаў мінчукоў закрываць форткі і вокны, калі ён ехаў па вуліцы свайго горада, скажам, на МТЗ ці МАЗ. Не забараняліся і прыпынкі аўтамашын на Паркавай магістралі...

І на той раз, калі мы з ім суправаджалі ў падарожжы па партызанскіх раёнах вядомага кінарэжысёра Элема Клімава, які збіраўся здымаць фільм "Ідзі і глядзі!" па сцэнарыі Алеся Адамовіча, у верталёце не было ахоўнікаў ні ў камізэльках, ні без камізэлек. Адзін Сазонкін. Верталёт спакойна ішоў над азёрна-ляснымі прасторамі партызанскага краю. Пётр Міронавіч быў у добрым настроі, ахвотна і ўзбуджана расказваў рэжысёру пра баі, блакады, перамогі і паражэнні, пакуль не прытаміўся — строкат матора абцяжарваў гаворку. А калі верталёт трапіў пад нізкія дажджавыя хмары і зямля ахуталася ў шэрую смугу, Пётр Міронавіч замаўчаў, надзеў навушнікі і паглыбіўся ў нейкія свае невясёлыя думы.

Прымоўклі і ўсе, хто быў у салоне. Я сядзеў насупраць Пятра Міронавіча. У руках была аматарская кінакамера. Калі пачаў накручваць спружыну камеры, ён кінуў на яе вокам. А я папытаўся больш на мігі, чым словамі, ці можна мне яго паздымаць. У навушніках ён не мог чуць голасу, але зразумеў маё жаданне і толькі павекамі даў зразумець, што не пярэчыць. Я не вельмі назаляў, але тое, што хацелася зрабіць, зрабіў. "Мой" Машэраў атрымаўся зусім не падобны на таго, якога мы бачылі на сходах, мітынгах і дэманстрацыях. Шкада толькі, што стужка па тэхнічных прычынах не можа быць выкарыстана на шырокім экране.

Канцавым пунктам нашага падарожжа над партызанскім краем былі Віцебскія, а больш дакладна — "Суражскія вароты". У вайну гэта быў шырокі пралом у нямецкай абароне, праз які партызаны хадзілі за фронт, а дыверсійныя групы з-за фронту — у партызанскую зону. Праз гэтыя ж вароты ратаваліся нашы людзі ад палону і загубы. Было што расказаць кінамайстрам.

Мясцовыя жыхары вёсачкі, якая ляжала ля тых "варот", ужо чакалі госця і сабраліся на роўным пляцы, дзе павінен быў прызямліцца верталёт. Народу было шмат, але ў асноўным жанчыны і дзеці і, вядома ж, мясцовае начальства. Як толькі высокі госць выйшаў з машыны, маладжавая жанчына кінулася да яго і літаральна павісла на шыі. Расточкам яна была па плячо высокаму Пятру Міронавічу. Ён крышку нахіліўся, а яна вельмі таропка пачала цалаваць яго ў шчокі, лоб. А потым прыціснулася галавою да грудзей, заціхла, і плечы яе ўздрыгнуліся. Жанчына плакала, смяялася і гаварыла вельмі ўсхвалявана:

— Пецечка, родненькі, як жа даўно ты ў нас не быў!..

— Таму, як бачыш, і прыляцеў на крылах.

— А ці надоўга? Можа б, заначаваў?! Я дужа ладнай самагоначкі выціснула, — і папярхнулася сваімі словамі, калі пачула дружны рогат мясцовых начальнікаў, якіяназіралі сцэнку.

— На жаль, ненадоўга я, — з сумам сказаў госць і патлумачыў жанчыне: — Да заходу сонца машына павінна падняцца ў паветра. Такая ў лётчыка інструкцыя.

— Хіба што інструкцыя, — неяк адразу пагасла жанчына.

— Ты не бядуй, я ў другі раз на самагоначку загляну, — пажартаваў Пётр Міронавіч, а нам патлумачыў, што Марыя была медсястрой у яго атрадзе.

Я вельмі пашкадаваў, што не ўзяў у паездку прафесійнага кінааператара, бо спадзяваўся, што рэжысёр Клімаў будзе мець свайго. Такія выпадкі і сцэнкі не паўтараюцца.

Наогул жа, Пётр Міронавіч не любіў кінатэлевізійнага суправаджэння. І, можа, таму, што ведаў і бачыў, як яго калегі па Палітбюро пунктуальна вядуць свой уласны кіналетапіс. Памятаю і добрую вывалачку, якую я атрымаў ад яго за тое, што не забяспечыў кіназдымку пасадкі ў самалёт Гейдара Аліева, калі той пакідаў Беларусь пасля ўрачыстасцяў, прысвечаных нейкай важнай беларускай падзеі. Яго памочнік мне названьваў пасля гэтага з паўгода, пакуль я не сабраў усе фотаздымкі і фотастужкі, дзе быў "запечатлен" Гейдар Аліевіч.

На вялікі жаль, звычайных, натурных, па-чалавечы цёплых кінакадраў пра Пятра Міронавіча засталося нямнога. А сюжэты былі непаўторныя і па форме, і па змесце і ляжалі, як кажуць, на паверхні. Аднойчы, калі ён збіраўся на верталётную вылазку ў раёны Палесся, я папрасіў дазволу накіраваць туды "ў засаду" кінаапаратараў. Ён катэгарычна забараніў мне гэта рабіць. А я не паслухаўся і па маршруце яго экспедыцыі зрабіў дзве засады. Адзін з трафеяў той засады — кінакадры, дзе Пётр Міронавіч надзіва спрытна закручвае анучу і абуваецца ў гумовыя боты, каб разам з палешукамі прайсці пракос праз балацянку... Пасля ўжо з гэтай балацянкі ён і ўвойдзе ў дакументальны фільм пра яго.

Самавольства маё з засадамі кінааператараў абышлося без вывалачкі, і, асмялеўшы, я папытаў у Пятра Міронавіча дазволу "паздымаць" на кінакамеру юбілейную ўрачыстасць, калі сябры-паплечнікі і саслужыўцы прыйдуць у яго кабінет, каб павіншаваць з шасцідзесяцігоддзем. Адказ быў катэгарычны: не! І толькі калі да яго зайшлі загадчыкі аддзелаў ЦК, а ў кабінеце было ўжо даволі многа кветак, юбіляр, звяртаючыся да мяне, сказаў у добрым настроі:

— Калі ўсё гэта хараство, усю гэту прыгажосць я перавязу ў Дразды і зраблю добрую экспазіцыю на прыступках, прышлі свайго аператара, няхай здыме. Кветкі, яны і ёсць кветкі і, на жаль, жывуць нядоўга...

— А пры іх — вы з сям'ёю, з унучкамі...

— Не, — адказаў, нібы шкадуючы, а я адчуў, што трэба адчапіцца. Кветкі, якія і адцвітаюць, і вянуць, былі зняты. Толькі кветкі... Пройдзе больш за 19 гадоў, і я даведаюся, чаму Пётр Міронавіч не захацеў здымацца з сям'ёю на фоне кветак. Даведаюся, што, прагледзеўшы кінастужку, на якой былі зняты кветкі, ён скажа: "Цяпер я ведаю, як мяне будуць хаваць..."

Да гэтых жахлівых і загадкавых слоў мы яшчэ вернемся.

А пад юбілей і доўга пасля яго людзі будуць здзіўляцца і рабіць здагадкі, чаму гэта такому важнаму, высокаму і заслужанаму юбіляру зорка Героя Сацыялістычнай Працы не была ўручана своечасова, як гэта рабілася са звычайнымі старшынямі калгасаў, дырэктарамі саўгасаў ды свінаркамі з даяркамі.

Чарга з уручэннем узнагароды да нашага героя дойдзе не скора. І якраз гэты час — ад узнагароды да ўручэння — будзе запоўнены рознымі чуткамі, здагадкамі і плёткамі. А падчас самога акта ўручэння Залатых зорак гораду-герою Мінску і асабіста Пятру Міронавічу (уручэнне рабілася паасобку) давядзецца яму перажыць горкі дзень і брыдкія гадзіны. Такія брыдкія, што ад адной-дзвюх мінут такой брыдоты можна было калі не праваліцца ў прадонне, то абвугліцца ад сораму... за генеральнага госця.

Пётр Міронавіч чакаў сваю ўзнагароду даволі доўга. Бачыце, Генсек гадамі быў настолькі заняты, што не мог траціць свайго дарагога часу на такую дробязь, як уручэнне Зорак гораду-герою і лідару нацыі беларусаў. І каню, як кажуць, было зразумела, што справа не ў занятасці яго вялікасці, а ў тым, што нацыянальнаму герою хацелі паказаць і паказалі сваё месца "под луною", якая можа крыху падсвятліць, але ніколі не сагрэе.

Пастаўце сябе на хвіліну на месца мужнага, годнага, гордага, культурнага і выхаванага Пятра Машэрава, і вы зразумееце, што тварылася ў яго душы ў гады чакання прысвоенай узнагароды...

І нарэшце "звышзорка" — "суперстар", як яго называлі амерыканскія прэзідэнты, з'явілася на нашым Паўночна-Заходнім небасхіле. Яго сустракалі з неверагоднай помпай, як і павінны былі сустракаць "величайшего деятеля современности" — аркестры, хоры, хлеб-соль, дзяўчаткі ў нацыянальным, мора кветак у руках адрэсіраваных дзетак, партыйна-савецкага актыву ўсяе Беларусі і пераапранутых курсантаў школ КДБ і міліцыі. Усе чакалі нечага накшталт Краснага сонейка, а ў дзвярах спецвагона з'явіўся вельмі стары дзед з неверагоднымі брывамі, адутлаватым попельным тварам і патухлымі вачыма. Каб стары не зваліўся з прыступак, слугі ў цывільным літаральна вынеслі яго з вагона і паставілі на няўстойлівыя старэчыя ногі. Было шкада глядзець на небараку з чатырма зоркамі на грудзях, і неяк само сабою падумалася: можа, табе, небарака, лепш было і не прыязджаць. Ды было не да роздуму. Партыйна-савецкі натоўп рынуўся да яго вялікасці, але шчыльнае, у некалькі радоў, кальца прывезенай з сабой аховы царабацюхны стрымала націск "верноподданных". Па вузкім калідоры мажных малайцоў, падобных на нашага чэмпіёна Мядзведзя, падтрымліваемы пад крылы стары датэпаў да чорнага браніраванага членавоза з прыцемненымі вокнамі, з цяжкасцю сеў у яго, бо ні спіна, ні ногі не хацелі гнуцца, — і той даў газу. Не дасягнуўшы паліткайфу ад "созерцания вождя", чынавенства панила пабрыло да сваіх лімузінаў, каб з'ехаць у гатэль на казённае снеданне з падагрэвам.

...Нешырокі, але вельмі высокі саўпартактыў уперамежку з "мядзведзямі" ў цывільным чакаў Генсека і нашага віноўніка ўрачыстасці ў Габеленнай зале ЦК. У прызначаны час яны выйшлі з-за знакамітага "ленінскага" габелена і былі сустрэты бурнымі, доўга не змаўкаючымі апладысментамі, пераходзячымі ў авацыю, як любілі ў тыя часы пісаць газеты. Калі ўсталявалася ўрачыстая цішыня, дзед, падсмоктваючы зубныя пратэзы, нешта прашамкаў па паперцы ў тым сэнсе, што ён прыехаў і хоча "с чувством глубокого удовлетворения"... Апошняе слова аказалася такім цяжкім для вымаўлення, што мне зноў стала шкада старога і хворага чалавека, якога выстаўляюць на здзек і пасмешышча. Добра, што яго спрытныя асістэнты хуценька паднеслі дзеду каробачку з зоркаю, і той непаслухмянымі старэчымі пальцамі доўга-доўга спрабаваў прымацаваць яе да пінжака юбіляра. Пад гэтую прыкрую паўзу мне і ўспомніўся эпізод з "Ціхага Дона" М.Шолахава, калі сіяцельная асоба ў ваенным шпіталі хоча ўручыць Грышку Меліхаву Георгіеўскі крыж за адвагу, а той просіцца да ветру.

Відаць было, што Пётр Міронавіч адчувае сябе вельмі ніякавата і надзвычай скавана, але трымаецца па-геройску, бо куды ты дзенешся — тут жа табе не шпіталь і не нейкая там сіяцельная асоба, а сама яго вялікасць з самымі лепшымі да цябе намерамі. Нарэшце з дапамогай асістэнта зорку ўдаецца надзейна замацаваць, і дзед лезе з пацалункамі і абавязкова ў вусны — была ў яго такая брыдкая звычка, якая засталася ў спадчыну наваяўленым маскоўскім царам і царадворцам, ды і не толькі маскоўскім.

Са словамі ўдзячнасці, як і прадугледжвалася сцэнарыем, за гістарычны візіт "верного ленинца" і "выдающегося деятеля", а таксама за асабістае ўручэнне высокай узнагароды наш двойчы Герой па крамлёўскай традыцыі выступаў па паперцы. І, вядома ж, не таму, што не мог без яе абысціся, а толькі з тае прычыны, што не мог прынізіць "их императорское величество", якое не здольна ўжо было сказаць ні па паперцы, ні без паперкі. Прамова ўдзячнасці па ўстаноўленых правілах павінна была пералічыць усе званні і абойму неверагодных эпітэтаў у гонар тытулаванай найвышэйшай асобы і таму аказалася не толькі трафарэтнай, але і даволі прытарнай ад залішняй патэтыкі і патакі.

— Я обещаю вам, дорогой Леонид Ильич, что и дальше буду отдавать все свои силы... — сказаў Пётр Міронавіч, адарваўшыся ад тэксту, але фразу не скончыў.

— Что ты клянешься... посмотрим... время покажет, — перапыніў яго Брэжнеў.

Ці то прысутныя не расшалопалі сэнс сказанага, ці то прынялі словы цара за ўдалы, свойскі жарт, бо зала страсянулася ад іх бурных апладысментаў...

...Другі раз за адзін дзень я пабачыў "нашага" Мао ў Тэатры оперы і балета на так званым урадавым канцэрце, за які мы з міністрам культуры адказвалі галавою. (Было такое папярэджанне.) Каб мы не зблышылі ў якінебудзь адказны момант і мелі б магчымасць любую пагрэшнасць своечасова выправіць, пасадзілі нас у першым радзе. Побач сеў і сакратар ЦК па ідэалогіі і, між іншым, не прамахнуўся, бо ЦУ яго на тым памятным канцэрце аказалася вырашальным. Па цэнтры ў чацвёртым радзе сеў высокі госць, а побач з ім Пётр Міронавіч. Другі і трэці рады занялі ўсё тыя ж "мядзведзі" ў цывільным. Нашы крэслы былі крыху ўправа ад цэнтра, і гэта давала магчымасць бакавым зрокам назіраць і за госцем, і за гаспадаром. (У такой сітуацыі галавой круціць не будзеш.) Перад самым канцэртам, калі ў зале наступіла адносная цішыня, было добра чуваць, што глухаватаму старому гаворыць гаспадар, але нельга было разабраць, што шамкае госць, падцмокваючы пратэз ці то па патрэбе, ці то па прывычцы.

Падцмокванне гэта было з нейкім вельмі непрыемным подсвістам. Для тых, хто сядзеў бліжэй да старца, гэта было даволі добра чуваць. Мне падалося, што Пётр Міронавіч з прыкрасцю і нецярпеннем чакае, калі той канцэрт пачнецца. А за кулісамі, як назло, марудзілі. А можа, пад напружаннем тыя секунды так марудна беглі. Ды яшчэ кінатэлекамеры — і свае, і маскоўскія — сфакусіравалі сваю ўвагу на адну кропку — нібы ў тым кадры быў сам бог ці, у крайнім выпадку, прышэлец з іншай планеты.



Фота Юрыя ІВАНОВА.

А святло тым часам паволі згасла, аркестр зайграў урачыстую уверцюру, а як адкрылі заслону, дзед наш ужо соладка спаў, схіліўшы галаву на грудзі, што зіхацелі залатым сузор'ем. Праўда, на прыемны, узмоцнены радыёапаратурай голас маладзенькай вядучай прачнуўся. Ненадоўга. Толькі пакуль артыст патэтычна чытаў вершпанегірык. На арыі знакамітай опернай артысткі зноў кімарнуў. На шумлівым, заліхвацкім народным танцы прачнуўся і даволі гучна папытаўся, ці будуць танцы яшчэ. Гаспадар паўшэптам запэўніў госця, што танцы будуць. І той зноў адключыўся. Спаў спакойна, аж пакуль не далі ці "Лявоніху", ці кадрыль, а разгублены Пётр Міронавіч не ведаў, што рабіць — ці будзіць, ці няхай сабе стары паспіць на здароўе, тым больш што ў прыцемках залы не кожны гэты канфуз бачыць. Пасля танца, калі юныя таленты зайгралі на скрыпачках, дзед нечакана падняўся над залай і па складах даволі выразна вымавіў:

— До-мой...

Пятру Міронавічу не без цяжкасці ўдалося пасадзіць на месца дарагога госця. А сакратар па ідэалогіі шэптам закамандаваў бегчы за кулісы і даць любы танец. Я завагаўся і цягнуў паўзу, а ён не без злосці і пагрозы ў голасе гучна прашаптаў:

— Та-нец!

Я апынуўся за кулісамі, але зрабіць што-небудзь было немагчыма. Танец не быў "зараджаны", а на выхад стаяла знакамітасць з "Салаўём" Аляб'ева. Я вярнуўся і схлусіў шэфу, што зараз будзе танец. Тым часам над залай рассыпаўся пошчак салаўя, а наша суперзорка зноў паднялася. Зала здзівілася, салавей папярхнуўся, а зорка прамовіла:

— Домой. — І ўжо зусім настойліва: — Я хочу домой!

— Занавес! — закамандаваў сакратар міністру, і той, прыгнуўшыся, кінуўся за кулісы.

Заслона накрыла салаўя. Зала зашумела ад здзіўлення, а Першы сакратар ЦК КПБ, кандыдат у члены Палітбюро ЦК КПСС, згараючы ад сораму, пад пахі выводзіў з залы ў бок урадавага пакоя здзяцінелага Генеральнага сакратара "ума, чести и совести нашей эпохи". Саўпартактыў здзіўлена лыпаў вачыма і пытаўся сам у сябе:

— Што, ужо ўсё?!

Тэлегледачы, што прыліплі да экранаў прамой перадачы, задаць такога пытання магчымасцяў не мелі і, хутчэй за ўсё, паспадзяваліся на тое, што поўны ўрадавы канцэрт паглядзяць у запісе. (Блажэнныя заўсёды на нешта спадзяюцца.)

З тэатра здзяцінелую суперзорку прыкладна праз паўгадзіны прывезлі ў рэстаран гатэля "Юбілейны", каб пад яе промнямі і з яе блаславення падняць чаркі за горад-герой Мінск, які ўрэшце атрымаў сваю заслужаную ўзнагароду, якую чакаў з 1974 года. А тутэйшыя апраўдалі тым, што лепш позна, чым ніколі.

Сталы ламіліся ад заморскага і айчыннага пітва, якому адпавядала закусь. За імі ўжо сядзела найвышэйшае і вышэйшае партыйнае чынавенства і нудзілася тым, што зорка недзе затрымалася ў дарозе, а без яе святую трапезу нельга было распачынаць. Пацелі і слязіліся бутэлькі, вызваліўшыся ад лядовых камер. Падтайваў лядок пад шампанскім, падсыхала на вольным паветры ікорка. Балычкі, паляўнічыя каўбаскі, заліўныя язычкі, салацікі і іншыя прысмакі чакалі свайго незайздроснага лёсу.

Яго пад мікіткі прывялі ў залу і пасадзілі за доўгім сталом, які звычайна называюць сталом прэзідыума і за якім сядзяць толькі самыя-самыя на чале з найсамейшым. Пакуль найсамейшы тэпаў ад парога да гэтага стала, чэлядзь наладзіла авацыю і, як мне здавалася, не столькі ад "верноподданнических чувств-с", колькі ад "предвкушения-с" звыклага кайфу ад напояў, закусі і прамоў. Калі па праўдзе, то да прамоў і тостаў справа не дайшла, хоць яны загадзя не толькі меркаваліся, але і пісаліся. З дапамогаю асістэнтаў-ад'ютантаў наш імператар устаў на свае ногі. Зала заціхла ў чаканні нуднай і коснаязыкай прамовы яго вялікасці. А яго вялікасць нечакана адсунула ўбок паперкі і пайшла на экспромт просты, як аглобля:

— Ну что, товарищи, врежем?!

Зала ўзвыла ад захаплення мужыцкай прастатой правадыра і па яго добрым прыкладзе ўрэзала да донцаў. У засмучанага і разгубленага Пятра Міронавіча, відаць, было ўдакладняючае алаверды, але сказаць яго ён не паспеў. Не паспеў пачуць віншаванняў і ў свой адрас. Правадыр намагаўся падняцца і, як той знакаміты арганчык, апісаны Салтыковым-Шчадрыным, заладзіў:

— Домой... Я хочу домой!.. И не возражайте, если я хочу! — і скіраваўся да выхаду.

Ніхто "не возражал". Пётр Міронавіч адступіў убок. Слугі амаль вынеслі нямоглага да машыны. Да чыгуначнага вакзала картэж з маскоўскімі гасцямі праводзіла высокае рэспубліканскае чынавенства. Астатнія ж, праявіўшы здаровы сэнс, засталіся на сагрэтых седалах і пілі да раніцы "за себя и за того парня".

Пра самаадчуванне Пятра Міронавіча падчас гэтакіх урачыстасцяў і пасля "высочайшего посещения" можна не гаварыць. Яно не прынесла яму ні радасці, ні светлых перспектыў. Здавалася, што абгаворы, здагадкі, плёткі запоўнілі ўсю затхлую прастору правінцыі. Адносна П.М.Машэрава сталі выстройвацца неверагодныя праекты і пражэкты, аж да тых, што дні яго на пасадзе Першага "сочтены". Каму ўся гэта свістапляска была патрэбна, здагадацца няцяжка. Абывацеля нібы рыхтавалі да развітання са сваім героем, якога вялікі госць не "удостоил" сваім начлегам, а з'ехаў, можна сказаць, не развітаўшыся.

Маральны тэрор з Першапрастольнай актывізаваўся і ўзрос. І асабліва пасля таго, як Пётр Міронавіч прыняў дэлегацыю сенатараў кангрэса ЗША. Кіраўнік той дэлегацыі, дарэчы, наш зямляк са Слоніма, вярнуўшыся ў Вашынгтон, у адказе карэспандэнту на пытанне, хто можа быць пераемнікам састарэлага Брэжнева, нібы адказаў, што ў Палітбюро ўсе архістарыя. Ёсць, маўляў, там толькі адзін адукаваны, інтэлігентны і яшчэ не стары Пётр Машэраў з правінцыі.

Калі гэтага на самай справе і не было, то павінна было б быць выдумана ў асяродку членаў і кандыдатаў у члены Палітбюро ці ў апараце ЦК КПСС, дзе з нецярпеннем чакаліся вялікія кадравыя перамены і, безумоўна ж, распрацоўваліся сцэнарыі гэтых перамен. Паралельна са сцэнарыямі прыдумляліся і анекдоты пра састарэлага Ільіча. Гісторыя даўно засведчыла і сёння пацвярджае геніяльнасць расійскага чынавенства ў закулісных кадравых інтрыгах і дварцовых пераваротах.

Варта ўспомніць плёткі і, як бы мовіць, больш радыкальнага кшталту. Пляткар-прафесіянал нібы пытаўся: чаму гэта Машэраў не загінуў у час арышту яго немцамі ў 41-м? Чаму гэта яны толькі патрымалі яго пад арыштам і адпусцілі? Не трэба быць вялікім дэтэктывам, каб здагадацца, што такія плёткі вакол такога чалавека фіксаваліся службай і кладліся на паперу, а паперы, магчыма, клаліся на стол аб'екту плётак. А Аўхімовіч занатаваў гэта невыпадкова, бо пра інтрыгі ведаў. І ці не быў наш Першы пад каўпаком нашага Мюлера? Незадоўга да гібелі Пётр Міронавіч расказаў Івану Яўцеевічу Палякову, што ён быў у палоне ў немцаў і ўтрымліваўся ў Барысаўскім канцлагеры. І яшчэ сказаў, што ён хутка памрэ. І павіснае пытанне, а як П.М.Машэраў вызваліўся з канцлагера, які быў у ведамстве абвера?..

Не стрымлівае і тое, што, вызваліўшыся з канцлагера і ўцёкшы да партызанаў, даў падставы немцам расстраляць яго маці.

А чаму было і не даць зразумець "умнику", што ён на кручку, як можа быць на кручку любы звычайны савецкі вінцік? Пачнеш тузацца, і паплавок падкажа, што пара падсекчы.

...Думаецца мне, што адхіленне ад пасады Пётр Міронавіч неяк перажыў бы. А ці перажыў бы ён правакацыйную беспадстаўную дыскрэдытацыю і ўласную дэгераізацыю, сказаць цяжка, бо быў ён не проста героем, а героем нацыянальным. І намёк на каўпак Мюлера не жарт.

Ведаю і дакладна, што апошні месяц-паўтара перад сваёй гібеллю на рабоце ён неяк яшчэ трымаўся, а "дома быў, як у ваду апушчаны" — гэта значыць самотны, задуменны, негаваркі да замкнёнасці; першым не выходзіў на кантакты з блізкімі, калі не лічыць настойлівых парад жонцы паехаць на адпачынак у Чэхаславакію без яго. З цяжкасцю, але яму ўсё ж удалося пераканаць яе.

А перад гэтым Пётр Міронавіч быў на ўрачыстасцях у Алма-Аце. 29 жніўня 1980 года тэлепраграма "Время" крупным планам паказвае Л.І.Брэжнева. Яго ад імя прысутных вітае П.М.Машэраў. І тут адбываецца нешта беспрэцэдэнтнае — генсекмаршал адварочваецца з грымасай непрыкрытай незадаволенасці, раздражнёнасці і гідлівасці...

...У той трагічны дзень 4 кастрычніка 1980 года ён апрануў святочны касцюм, узяў з сабой дыпламат, які некуды знік пасля катастрофы...

"Цяпер я ведаю, як мяне будуць хаваць", — скажа ён адразу пасля свайго юбілею. Што гэта? У 60 гадоў чалавек прадчувае смерць? Рыхтуецца да яе? Ведае, як яго прыгожа-юбілейна будуць хаваць? Бачыць сябе мёртвым? Папярэджвае старшыню Вярхоўнага Савета І.Я.Палякова, што хутка памрэ?.. І навошта расказвае пра барысаўскі палон, аб чым дагэтуль ніхто не ведаў? І расказвае аднаму з лепшых сваіх сяброў... (А пасля ўжо палякоўскі пераказ слоў Машэрава занатуе Шамякін і цісканё ў часопісе.)

...Хавалі героя прыгожа, але дзіўна. Для сотняў тысяч людзей толькі ў сталіцы гэта была трагедыя, і яны настаялі на тым, каб час доступу да труны нябожчыка быў падоўжаны. Для начальства, ды даруе мне Бог, гэта было мерапрыемства. Начальства было ў трывозе: хто заменіць Машэрава?..

Дзіўна і тое, што з Палітбюро і наогул з ЦК КПСС у адрас сям'і нябожчыка не паступіла ні аднаго тэлефоннага званка, ні адной спачувальнай тэлеграмы. Чаму там забыліся на элементарную прыстойнасць, пра якую ўжо тысячагоддзі ведае звычайны homo sapiens? А можа, не забыліся, а кіраваліся нечым іншым, а не прыстойнасцю? Тады чаму і чым кіраваліся? Што хацелі сказаць нялюдскім маўчаннем?

Дзіўна і тое, што кіраўнік рэспублікі, лідар нацыі гіне раніцай 4 кастрычніка, а народу пра гэта паведамляецца толькі 6 кастрычніка, хоць той жа народ ведае гэта з замежнага радыё менавіта 4 кастрычніка. Два дні рэспубліканскія газеты пішуць пра нарыхтоўку бульбы, асваенне космасу, падрыхтоўку жывёлагадоўчых ферм́аў да зімы. "Советская Белоруссия" паведамляе пра пасяджэнне Савета Міністраў БССР, на якім было разгледжана пытанне "О мерах дальнейшего укрепления материально-технической базы концертных организаций и творческих союзов". Маўчаць толькі пра смерць П.М.Машэрава. Чаму? Спадзяюцца ажывіць нябожчыка ці схаваць саму яго смерць? Дзіўна! Бязглузда! Загадкава!

Дзіўна і тое, што Палітбюро забараняе выезд на пахаванне кандыдата ў члены Палітбюро ўсім першым сакратарам кампартый саюзных рэспублік, і тыя паслухмяна пагаджаюцца з такой грахоўнай забаронай. Нарэшце, не ад праказы ж ці чумы загінуў іх калега! І доступ да яго труны адкрыты... Адзін сусед, Першы сакратар кампартыі Літвы П.П.Грышкявічус, скажа: "Я пахаваю друга, а тады няхай са мною робяць, што хочуць!" — і прыедзе ў Мінск. Па ўласнай ініцыятыве прыедуць яшчэ касманаўты-землякі В.У.Церашкова, У.В.Кавалёнак і П.І.Клімук. Яшчэ ад уласнага імя сям'і нябожчыка прышле тэлеграму К.Т.Мазураў. Двурушнікі-крывадушнікі з Палітбюро падпішуць некралог, у жалезабетонную форму якога вымушаны будуць уціснуць наступны змест: "Перестало биться сердце пламенного коммуниста, известного деятеля Коммунистической партии и Советского государства, вся сознательная жизнь которого была отдана делу строительства коммунизма. П.М.Машеров на всех участках работы проявлял творчество и инициативу в осуществлении политики партии. Его отличали беззаветная преданность великим идеалам коммунизма, огромная энергия и страсть в работе, партийная принципиальность и человечность, личное обаяние и скромность. Всё это снискало ему признание, высокий авторитет в партии и народе".

Фармальна? Фармальна. Праўдзіва? Праўдзіва.

Гэта і ёсць мастацтва крывадушнасці.

Спачуванні ад ЦК кампартый, Вярхоўных Саветаў і Саветаў Міністраў саюзных рэспублік таксама будуць, але ў асноўным без уласных подпісаў кіраўнікоў гэтых высокіх устаноў. І гэта ўжо зусім не дзіўна — раз на пахаванне нельга паехаць, то навошта ж рызыкаваць з уласнымі подпісамі? Праўда, Д.Кунаеў з Казахстана, А.Э.Вос з Латвіі і Э.А.Шэварднадзэ з Грузіі ўсё ж рызыкнуць і падпішуцца ўласнаручна.

Расійскую дзяржаву на пахаванні будзе прадстаўляць Старшыня Вярхоўнага Савета РСФСР М.А.Ясноў, КПСС — сакратар ЦК па ідэалогіі М.В.Зімянін. Ён скажа казённую, трафарэтна-фармальную прамову ў духу некралога і не больш за тое, хоць заўсёды лічыўся не толькі земляком нябожчыка, але і пабрацімам па партызанска-камсамольскіх справах. Гэта той самы Зімянін, які дзесяцігоддзямі зайздросціў П.М.Машэраву, раўнаваў яго да высокай пасады і да якога ў Пятра Міронавіча, мякка кажучы, былі стрыманыя адносіны.

Пасля пахавання "пламенного коммуниста, известного деятеля Коммунистической партии и Советского государства... партийная принципиальность и человечность, личное обаяние и скромность" якога "снискали ему" і гэтак далей пры поўнай інфармацыйнай блакадзе імя нашага героя знікне з ужытку так званымі СМІ і не будзе ўпамінацца гадоў дзесяць.

Чаму? З якое прычыны? Пахавалі ж яго не за агароджай могілак...

Было такое ўражанне, што наступнікі яго тут, у "Северо-Западном крае России", баяцца ценю свайго папярэдніка, як чорт ладану, у той самы час, калі звычайныя людзі абкладваюць яго магілу тысячамі велікодных яек...

Як некалі пісаў Францыск Скарына, "тайна сія над розумам маім".

...Пётр Міронавіч дужа любіў слова "паісціне". Мне і хочацца скончыць гэты сумны аповед словамі: паісціне несправядзімы шляхі твае, Госпадзі... Драматургічная ж логіка паказвае, што ў гібелі П.М.Машэрава не ўсё можна ўспрымаць адназначна. Але гэта ўжо іншы сюжэт. І іншая, між іншым, версія гібелі...

**Алесь ПЕТРАШКЕВІЧ.**

ПУЛЬС ПЛАНЕТЫ

## Меркель потребовала от Обамы не прослушивать ее телефон

Канцлер Германии Ангела Меркель позвонила президенту США Бараку Обаме и потребовала от него разъяснений в связи с появившейся информацией о том, что американские спецслужбы прослушивали ее мобильный телефон. Меркель дала понять, что такая практика серьезно подрывает доверие между друзьями и союзниками, и призвала Обаму прояснить масштаб осуществляемых Соединенными Штатами программ слежки в Германии.

Согласно информации из Белого дома, Барак Обама заверил Ангелу Меркель, что американские спецслужбы не прослушивают ее разговоры. “Соединенные Штаты не прослушивают и не будут прослушивать разговоры канцлера Германии”, — заявил пресс-секретарь Белого дома Джей Карни.

## Главная фигура в мире искусства

Сестра эмира Катара названа самым влиятельным в мире человеком в области современного искусства. Согласно опросу, проведенному журналом Art Review, шейха Маясса аль-Тани, возглавляющая Управление музеев Катара, заняла первое место благодаря осуществляемой этой организацией обширной программе закупок произведений искусства на различных аукционах мира.

Как отмечает корреспондент Би-Би-Си, переход шейхи Маяссы с 11-го места в списке Art Review в прошлом году на первое в этом показывает, насколько Катар увеличил влияние в области искусства благодаря своим огромным финансовым ресурсам. По приблизительным данным, Управление музеев Катара тратит около миллиарда долларов в год на приобретение картин и скульптур для своих музеев. В основном это произведения современного искусства.

## В Венгрии прошли митинги в память восстания 1956 года

В Будапеште десятки тысяч человек приняли участие в организованных разными политическими силами демонстрациях в память об очередной годовщине восстания 1956 года против коммунистического режима.

Венгерское восстание против просоветского коммунистического режима началось 23 октября 1956 года с многолюдных митингов и шествий в Будапеште. Демонстранты разрушили огромный памятник Сталину в центре венгерской столицы. Вскоре выступления распространились по всей Венгрии.

Через несколько дней в Венгрию вступили советские войска, и многие участники восстания погибли на баррикадах.

Как передает из Будапешта корреспондент Би-Би-Си, в этом году в речах выступавших доминировали внутриполитические темы. Премьер-министр Виктор Орбан сравнил своих политических противников с коммунистами, а лидеры левых и либеральных партий призвали к отставке Орбана.

## Папа Римский отстранил от дел «погрязшего в роскоши» епископа

Отстранить от дел епископа Лимбурга на время проведения расследования — такое решение принял Ватикан. Обвиняемому в многомиллионных растратах церковных средств и прозванному немецкими СМИ “погрязшим в роскоши” епископу предписано покинуть епархию.

Вот уже две недели, как Германию сотрясает скандал: строительство дома рядом с Лимбургским собором обошлось епископу Францу-Петеру Тебарц фон Эльсту более чем в 30 миллионов евро, утверждает национальная пресса.

Расследование вменяемых в вину лимбургскому епископу обстоятельств будет вести специальная комиссия, назначенная немецкой Конференцией католических епископов. О епархии в отсутствие фон Эльста позаботится его наместник Вольфганг Рош.

## Ученые изобрели жесткий диск, который переживет человечество

Информация на традиционных жестких дисках может храниться до десяти лет. Этого хватает для обычных пользователей, однако недостаточно, чтобы передать “весточку” в далекое будущее. Вот почему ученые разработали носитель информации, способный пережить нашу цивилизацию.

Необычной работой занялись нидерландские исследователи из Университета Твенте. В настоящее время их разработка способна в нормальных условиях хранить данные в течение миллиона лет, однако они надеются увеличить срок службы до миллиарда.

“Неважно, музыка ли это, искусство, литература или научные открытия — люди всегда пытались передать информацию будущим поколениям. Как мы знаем, рано или поздно человеческая цивилизация исчезнет, и воспоминания о ее могуществе могут полностью раствориться”, — говорят исследователи. Мысли о будущем и заставили их заняться разработкой своей идеи.

## В Японии начали шить одежду, защищающую от радиации

Известный японский производитель гидрокостюмов Yamamoto Corporation объявил о создании специальной радиационно устойчивой одежды с целью помочь людям в борьбе с последствиями катастрофы на АЭС в Фукусиме в 2011 году.

Корпорация представила линию одежды, которая способна блокировать бета-лучи, вызывающие различные раковые заболевания, передает Fibre2fashion. Она предназначена для людей, работающих в непосредственной зоне заражения, и сделана из особого прорезиненного материала с добавлением углерода. Серийный выпуск такой одежды в Японии начнется в ноябре 2013 года.

СТОП-КАДР!



**Гульня афганскіх дзяцей.**

ИЗ ЖИЗНИ ПРЕЗИДЕНТОВ

# Обама не дал упасть женщине

*Президент США выступал на лужайке перед Белым домом, рассказывая о проблемах правительственного интернет-сайта healthcare.gov, на котором американцы, не имеющие медицинской страховки, могут найти различные предложения и оформить полис.*

По традиции, главу государства окружала группа соотечественников, специально приглашенных для этого случая. Под конец речи Обамы молодая женщина в красном платье, стоявшая за ним, почувствовала себя нехорошо и пошатнулась. Обама обернулся и поддержал ее, передает РИА “Новости”.

“Я вас держу, все будет хорошо. Вот что бывает, когда я говорю слишком долго”, — отреагировал американский лидер.

Позже Белый дом сообщил, что женщину зовут Кармель Аллисон, она страдает диабетом, в данный момент беременна и входит в число тех, кому призвана помочь реформа здравоохранения.

Сама Аллисон написала в своем аккаунте в Twitter: “Со мной все в порядке! Просто голова немного закружилась. Спасибо @BarackObama, что он меня подхватил!”



## На абцасах у валейбол

Герцагіня Кембрыджская Кейт прыняла ўдзел у спартыўным семінары, які прайшоў у Алімпійскім парку ў Лондане. Трэба адзначыць, што яна шэфствуе над добрачыннай арганізацыяй, якая падтрымлівае таленавітых юных спартсменаў. Прынцэса не толькі пагутарыла з юнымі спартсменамі, але і згуляла з імі ў валейбол па іх просьбе. А пакольні Кэтрын да такой падзеі не рыхтавалася, дык гуляла на высокіх абцасах. І, як адзначаюць спецыялісты, згуляла добра.

СТРАНИЦЫ ИСТОРИИ

## «Битве народов» 200 лет. От кровавой бойни — к идее единой Европы



Никогда прежде на поле боя не погибало столько солдат, как в сражении под Лейпцигом: каждый пятый участник поплатился жизнью. А правители сели за стол переговоров.

16 октября 1813 года. Дождливый осенний день. Когда к девяти утра рассеялся туман, прогремели три выстрела — сигнал к началу сражения. По данным историков, на поле боя друг другу противостояли до 600 тысяч солдат. С одной стороны — армия Наполеона и его союзников, с другой — войска Австрии, Пруссии, России и Швеции.

Через четыре дня, 19 октября 1813 года, битва против наполеоновской армии была выиграна. “Такого сражения мир еще не видел. Поле боя на несколько километров было усеяно трупами, изувеченными телами. Лейпцигское сражение было очень кровавым”, — писал своей жене прусский генерал Август фон Гнейзенау.

Огромное количество жертв заставило политиков задуматься над тем, насколько важно решать возникающие конфликты за столом переговоров. “Это был первый случай, когда государственные мужи, шокированные результатами битвы, заговорили о поисках других путей решения проблем, — подчеркивает историк Штеффен Позер. — Итогом стал Венский конгресс — общеевропейская конференция, в ходе которой была выработана система договоров, направленных на восстановление феодально-абсолютистских монархий, разрушенных наполеоновскими войнами, и были определены новые границы самых больших и влиятельных государств Европы”.

События 200-летней давности сыграли огромную роль в истории, причем не только немецкой, но и общеевропейской. По мнению Буркхарда Юнга, бургомистра Лейпцига, благодаря “Битве народов” Европа вышла на путь нового государственного устройства. “Несмотря на то, что армия Наполеона потерпела поражение, идеи Французской революции о свободе, равенстве и братстве проложили себе дорогу в Европе”, — подчеркивает он. Юнг уверен, что идея объединения Европы зародилась во время Венского конгресса.

Такого же мнения придерживается и историк Штеффен Позер: “То сражение стало важным этапом на пути развития Европы, началом каменистого пути к мирному европейскому содружеству государств, в котором мы сегодня живем”.

**Василий ПЕТРОВ.**

**На снимке:** *Более шести тысяч любителей истории воспроизвели историческую битву под Лейпцигом.*

У НИХ

## Почему финны любят потеть в сауне

“Финны говорят, что сауна — это аптека для нищего”, — говорит 54-летний житель Хельсинки Пекка Ниеми, который ежедневно проводит по три часа в сауне.

В наши дни население Финляндии составляет 5,3 млн человек. При этом в стране насчитывается 3,3 млн саун, расположенных в частных домах, учреждениях, на заводах, в спортивных центрах, гостиницах и даже в шахтах глубоко под землей.

99% финнов посещают сауну по крайней мере раз в неделю, а летом на даче — гораздо чаще. Там вся жизнь сосредоточена на банном ритуале с окунанием в холодную воду соседнего озера.

“Раньше детей учили вести себя в сауне так, будто они находились в церкви”, — рассказывает Ярмо Лехтола. Сам он — активный член Финского общества любителей сауны “Саунасеура”, которое занимается поддержанием традиций сауны.

Этот частный клуб, насчитывающий 4200 членов, был основан в 1937 году. Он расположен на острове в 15 минутах езды от центра Хельсинки. Здание клуба выходит окнами на Балтийское море и окружено березовой рощей.

У входа висит призыв выключить мобильный телефон. “Сауна — это место для медитации. Она помогает вам расслабиться в современном мире, в котором нет места покою. В сауне обычно царит полумрак, а жара такая, что страшно рот раскрыть”, — говорит Лехтола.

Финны считают, что, несмотря на то, что температура в парилке может достигать 160 градусов, в сауне часто мирятся после ссор и разрешают конфликты.

Финский парламент имеет собственную сауну для депутатов, где тоже проходят дебаты, а все посольства и консульства Финляндии за рубежом имеют собственные сауны.

Бывший президент страны и лауреат Нобелевской премии мира Мартти Ахтисаари любил устраивать встречи в сауне с иностранными политиками, во время которых обсуждались острые вопросы. В годы холодной войны президент Урхо Кекконен часто принимал советских дипломатов в сауне своей официальной резиденции.

**Алесь ДРАБЧУК.**

У СУСЕДЗЯЎ

## Made in Poland — крута!

„Выраблена ў Польшчы” — Made in Poland — гэта новая кампанія Міністэрства эканомікі, мэта якой — прасоўванне польскага брэнду.

Мэта кампаніі ў тым, каб узмоцніць вобраз Польшчы сярод замежных інвестараў як сучаснага надзейнага эканамічнага партнёра, — тлумачыць віцэ-прэм’ер і міністр эканомікі Польшчы Януш Пехацінскі.

Сёння прамоўшан краіны, брэнду „Польшча”, польскага вырабу, польскай фірмы, польскага вынаходцы — гэта суцэльная сістэма дзеянняў не толькі ў рамках дзяржаўнай палітыкі, якая праводзіцца Міністэрствам эканомікі і Міністэрствам замежных спраў, кажа ён. Кампанія вядзецца таксама на ўзроўні паасобных прамысловых галін, сярод фірмаў і сярод канкрэтных людзей.

Міністэрства эканомікі вырашыла прапагандаваць у свеце 15 галін, у тым ліку польскую касметыку, мэблю, ювелірныя вырабы, яхты і лодкі, фармацэўтычную прамысловасць.

Ведамства будзе заахвочваць замежных інвестараў у Чэхіі, Нямеччыне, Украіне, Кітаі і Расіі наладжваць супрацоўніцтва з польскімі фірмамі.

Акрамя рэкламы ў мясцовым друку згаданых дзяржаў будзе падрыхтаваны таксама даведнік „Польскія фірмы і прадукты”, будуць ладзіцца эканамічныя форумы.

Кампанія Made in Poland рэалізуецца на сродкі Еўрасаюза. Гэта 20 мільёнаў злотых (5 мільёнаў еўра), паведамляе “Польскае радыё”.

МІНІ-КАМЕНТАРЫЙ

## Іран ідзе на саступкі. Чаму?

*ЗША і Еўропа дамагаліся ад Тэгерана спынення ядзернай праграмы. Улады Ірана да апошняга моманту адмаўляліся ад перамоў. Цяпер сітуацыя змянілася, піша штодзёнка “Rzeczpospolita”.*

У Жэневе пачаліся перамовы паміж урадам Ірана і заходнімі краінамі пад патранатам ААН. Яны ідуць вельмі інтэнсіўна. За апошнія 12 год такія сустрэчы адбыліся ўсяго восем разоў, а за апошнія некалькі тыдняў — ужо два. Што ж здарылася?

Поспех тлумачыцца складанай эканамічнай сітуацыяй, у якой апынуўся Іран пасля эканамічных санкцый Захаду. З-за нежадання прыпыніць ядзерную праграму Захад наклаў на Іран эмбарга на гандлёвыя і фінансавыя аперацыі. За апошнія 18 месяцаў іранская эканоміка згубіла каля 100 млрд долараў. Інфляцыя перакрочыла мяжу 39%, а ВУП скараціўся на 5,4%. Беспрацоўе дасягнула 30%, а сярод моладзі — нават 40%.

Сітуацыю пагаршаюць няўдалыя рэформы папярэдняга ўрада, які замест прыватызацыі аддаў дзяржаўныя прадпрыемствы генералам з Нацыянальнай гвардыі. Пад ціскам праблем новы прэзідэнт Гасан Рахані хоча нармалізацыі адносін з Захадам. Паводле ацэнак экспертаў, на рэалізацыю гэтай мэты яму засталося мала часу. Амерыканскія аналітыкі перакананы, што праз тры месяцы іранская эканоміка збанкрутуе, калі не будуць зняты санкцыі.

**Андрэй КРАЎЦЭВІЧ.**

ПОУЧИТЕСЬ!

# Как создать свою «Кремниевую долину»?

Страны Балтии и Скандинавские страны сформировали инновационный регион, который активно продвигается вперед в глобальной гонке высоких технологий. Вместе они породили такие вещи, как Skype, Nokia, Ericsson и множество других технологических новинок. Тон здесь задает Эстония.

Но как такая маленькая страна, где всего 1,3 миллиона жителей, создала новую “Кремниевую долину” — рай для начинающих компаний?

“Все началось с восстановления независимости (в 1991 году), — сказал бывший руководитель Skype Стен Тамкиви, ныне работающий в Стэнфордской школе бизнеса. — Во время советской оккупации эстонцы выработали неформальную предпринимательскую культуру, чтобы обходить стороной ограничения коммунизма. Положительным побочным эффектом такого занятия стал упор на точные науки (вычислительная техника и информатика), а также на проектно-конструкторские работы”.

Когда Эстония вышла из-за железного занавеса, фундаментные блоки у этой понимающей в современных технологиях страны были уже на месте. Эстонские политики воспользовались этим преимуществом, чтобы побыстрее ввести Эстонию в состав Евросоюза, и в то же время активно вкладывали инвестиции в телекоммуникации и техническое образование.

Сегодня Эстония опережает весь мир по скорости интернета и является первой страной, где существует общенациональная система зарядки электромобилей

Демография также сыграла свою роль в технологическом ренессансе страны. Вакуум, оставшийся после ухода закоренелых коммунистических руководителей, заполнили молодые, разбирающиеся в современных технологиях политики, среди которых нынешний президент страны Тоомас Хендрик Ильвес. Этот человек, научившийся программированию в 13-летнем возрасте, вот уже более 20 лет занимается развитием инфраструктуры информационных технологий в стране.

А потом был Skype. Сервис голосовой и видеосвязи по интернет-протоколу, созданный скандинавскими программистами Никласом Зеннстремом и Янусом Фрийсом совместно с четверкой эстонских программистов (это Ахти Хейнла, Прийт Касесалу, Яаан Таллинн и Тойво Аннус). Это стало революцией в мировой связи. Покупка Skype компанией Ebay за 2,6 миллиарда долларов с его последующей перепродажей корпорации Microsoft за 8,5 миллиарда дали эстонским предпринимателям необходимые средства и возможности, а страна обрела элитный статус мировой площадки для стартапов.

Еще одно преимущество коммерческой деятельности в Эстонии — это низкая стоимость жизни. По сравнению с другими странами ЕС в Эстонии весьма привлекательные цены на жилье и продукты питания, а зарплаты вполне солидные. Расходы на ведение бизнеса сдерживаются благодаря благоприятному налоговому законодательству и современной инфраструктуре. Эстония занимает ведущие места в рейтингах свободы прессы и в соблюдении законов об интеллектуальной собственности. Вдобавок к этому вся территория страны — это сплошная зона бесплатного беспроводного интернета. Предвидя высокий спрос на эстонских программистов и разработчиков, правительство включило предмет “вычислительная техника” во все государственные школьные программы с первого по последний класс.

Ведущие университеты Эстонии также подчеркивают важность инноваций. Таллиннский технологический институт недавно создал научно-исследовательскую лабораторию Mektory Lean Lab, ставшую гибридом школы дизайна, мини-инкубатора и офиса по продвижению инноваций этой школы на рынке. В 2009 году Skype совместно с правительством создала Эстонскую академию информационных технологий, чтобы расширить доступность современного компьютерного образования. Но такие действия по продвижению инновационного процесса не ограничиваются пределами Эстонии. Так, Таллиннский технологический институт совместно с образованным 400 лет тому назад Тартуским университетом предлагает бесплатное обучение для любого аспиранта, который хочет получить научную степень в одной или нескольких областях, связанных с технологиями, — будь он из Эстонии или из любой другой точки земного шара.

Сама Эстония — это не очень большой рынок, поэтому компании развиваются с прицелом на США, Британию и на всю Европу. Решение “смотреть на Запад” было принято на самом раннем этапе эстонского вхождения на рынок высоких технологий, благодаря чему удалось создать обширную программу расширения бизнеса и исследований потребительской динамики за рубежом.

В маленьком размере есть свои преимущества. Благодаря небольшому, но разбирающемуся в современных технологиях населению, хорошей инфраструктуре и правильной государственной политике, способствующей развитию технологий, Эстония стала просто фантастическим полигоном для начинающих компаний, стремящихся усовершенствовать свою продукцию, отмечает издание США “The Dish Daily”.

**Подготовил к печати Алесь ДРАБЧУК.**

## Ресторан, в котором запрещены разговоры

*“Возможно, что-то есть в том, чтобы говорить с набитым ртом, но один ресторан в Нью-Йорке пошел на такой необычный шаг — он полностью запретил разговоры”, — пишет The Times.*

Посетители должны заранее резервировать столики на определенные дни для того, чтобы получить привилегию поесть в тишине, не слушая никаких разговоров вечером в пятницу или субботу, сообщает издание. Гости, которые осмеливаются нарушить золотое правило “когда я ем, я глух и нем”, вынуждены доедать свое блюдо “в углу” — на лавочке снаружи.

Элисон Уайз пришла со своим молодым человеком, и пара была покорена этой атмосферой, передает газета. “Было действительно приятно провести время вместе без необходимости выдумывать, о чем бы поговорить”, — заявила Элисон.

